НАВІНЫ

## Дэфіцыт кадраў у мінскіх паліклініках

**Дэфіцыт кадраў ва ўстановах аховы здароўя беларускай сталіцы складае ад 22 да 40 працэнтаў. Укамплектаванасць урачамі складае 75 працэнтаў, сярэднім медыцынскім персаналам — 78, малодшым — 60 працэнтаў.**

Адной з прычын такога становішча з'яўляецца невысокі ўзровень заработнай платы. У красавіку гэтага года з улікам усіх даплат яна склала 150 тысяч рублёў ва ўрачоў, 101 тысячу ў сярэдняга і 66,7 тысячы рублёў у малодшага медперсаналу. Назіраецца дэфіцыт педыятраў, участковых тэрапеўтаў, хірургаў, неўрапатолагаў, аталарынголагаў.

У мэтах зніжэння цякучасці кадраў рашэннем Мінгарвыканкама ад 15 снежня 2000 года на 40 працэнтаў павялічана зарплата работнікам участковай сеткі. Прадугледжваецца штогадовае будаўніцтва 100 кватэр медыцынскім работнікам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, заснаваны 150 прэмій па 50 мінімальных зарплат кожная для лепшых медработнікаў, а таксама 100 грантаў на агульную суму 4000 мінімальных зарплат на ўкараненне новых метадаў лячэння і абследавання. Праводзіцца палітыка прыцягнення іншагародніх спецыялістаў.

З мэтай эканоміі сродкаў у паліклініках уводзіцца сістэма дзённых стацыянараў, паколькі знаходжанне пацыента ў бальніцы каштуе ад 6 да 10 тысяч рублёў у дзень і нават болей. Зараз у паліклінічных установах горада налічваецца 1200 ложкаў.

Сярод іншых навінак — развіццё аператыўнага лячэння ў паліклініках (хірургія, аталарынгалогія, афтальмалогія), а таксама перавод усіх непаўналетніх дзяцей на абслугоўванне ў дзіцячыя паліклінікі (на працягу 2001—2002 гадоў). Дагэтуль падлеткі, якія дасягнулі 15 гадоў, пераводзіліся ў дарослыя паліклінікі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## У БДУ чатыры новыя спецыяльнасці

**Сёлета Беларускі дзяржаўны універсітэт пачне набор студэнтаў на чатыры новыя спецыяльнасці: "дакументазнаўства і дакументальнае забеспячэнне кіравання" на гістарычным факультэце, "лінгвакраіназнаўства" са спецыялізацыяй "Кітай" на факультэце міжнародных стасункаў, "кітайская мова і літаратура" на філалагічным факультэце, "лячэбная справа" на факультэце фундаментальнай і нетрадыцыйнай медыцыны, дзе будзе ажыццяўляцца падрыхтоўка ўрачоў спартыўнай медыцыны.**

Сёлета БДУ прыме 1850 студэнтаў на дзённае і 480 — на завочнае аддзяленні. Запланаваны прыём як на часткова аплатную форму навучання для абітурыентаў, якія не прайшлі па конкурсе на бюджэтныя месцы, гэтак і на поўнасцю аплатную — для тых, хто прайшоў субяседванне і тэсціраванне. Уступныя экзамены ў асноўным будуць праводзіцца ў пісьмовай форме. Сёлета чакаецца конкурс ад 3,5 да 7 чалавек на месца.

Сярод іншых асаблівасцей прыёму ў БДУ — дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў абітурыентаў і арганізацыя агульнага конкурсу на тыя факультэты, дзе па ўсіх спецыяльнасцях супадае пералік уступных экзаменаў.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Судьба человека
### Два года назад пропал актер Андрей Бубашкин

Два года назад Андрей сообщил, что гастроли в Германии окончились и он едет домой. С тех пор о нем ничего неизвестно.

Тесть артиста, заслуженный деятель искусств Владимир Уроднич говорит, что недавно делом Бубашкина занялся один из лучших следователей прокуратуры по особо важным делам. К сожалению, следователь пока не готов ответить на вопросы журналистов о судьбе белорусского артиста. Он утверждает, что *"дело в производстве"*, *"следствие усиленно работает"* и *"надежда есть всегда"*.

А семилетний Никита, сын Бубашкина, до сих пор не может понять, почему папа так долго не возвращается домой, где его все ждут...

**Досье**

*Андрей Николаевич Бубашкин. Родился в 1958 году в Лиде. Белорус. Артист Театра-студии киноактера.*

*С конца апреля по 30 мая 1999 года находился на гастролях в Мюнстере по приглашению регионального общества развития культурных связей Германия—Россия—Беларусь.*

*Как известно, 30 мая Андрей один на автомобиле Honda Civic выехал из Мюнстера в направлении Франкфурта-на-Одере. Здесь его следы теряются.*

*Его автомобиль не был зарегистрирован ни в одном дорожно-транспортном-происшестви и. Почти год назад машина Бубашкина с официально зарегистрированными номерами была найдена в Калининграде.*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

## Ваенны парад будзе на Кастрычніцкай плошчы

**3 ліпеня, у Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, пройдзе ваенны парад на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Пра гэта ў інтэрв'ю газеце Міністэрства абароны "Во славу Родины" паведаміў галоўны ваенны камендант Узброеных Сіл Беларусі палкоўнік Уладзімір Федароўскі. Аб прычынах змянення месца правядзення парада, які раней праходзіў на плошчы Незалежнасці, ён нічога не паведаміў.**

Паводле слоў Федароўскага, у парадзе возьмуць удзел больш чым 4 тысячы чалавек. Усяго будзе 24 парадныя "каробкі", уключаючы барабаншчыкаў і зводны аркестр. Механізаваная калона будзе складацца са 119 адзінак ваеннай тэхнікі, трэць з якой — на гусенічным хаду. Перад гледачамі пройдуць БТРы, БМП, самаходная гаўбіца 2С1 "Гваздзіка", зенітны ракетны комплекс "Страла-10", рэактыўная сістэма залпавага агню "Белград", зенітны ракетны комплекс С-300 і іншыя ўзоры ваеннай тэхнікі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Свабодная эканамічная зона на Магілёўшчыне

**Магілёўскі аблвыканкам выступіў ініцыятарам стварэння на тэрыторыі вобласці свабоднай эканамічнай зоны.**

Мяркуецца, што ў СЭЗ увойдуць Магілёў і Магілёўскі раён. Ужо вызначаны пяць пляцовак свабоднай эканамічнай зоны агульнай плошчай 400 тысяч квадратных метраў. Яны размяшчаюцца ў раёне завода "Магілёўтрансмаш", дрэваапрацоўчага завода, прадпрыемства "Магілёўгандальсервіс", ля аэрапорта. Тут могуць размясціцца вытворчыя і складскія памяшканні. Пятым пунктам СЭЗ стане ЗАТ "Тэхналагічны парк Магілёў". Таксама ў перспектыве стварэнне свабоднага мытнага склада на тэрыторыі эканамічнай зоны.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

# СВАБОДА

**Воля, свабода... Словы амаль магічныя. Яны неяк па-асабліваму ўспрымаюцца.**
**У мяне слова "свабода" выклікае ўяўленне шырокага светлага прастору, дзе вее цёплы, лагодны вецер.**
**Несвабода асацыіруецца з нечым замкнутым, прыгнечаным і абмежаваным, без даляглядаў і перамен.**

**Зянон ПАЗЬНЯК**

Праявы несвабоды я назіраў з самага ранняга дзяцінства, тады, калі пачалася савецкая калектывізацыя. Пад акупацыяй воля не існуе. Беларус быў бяспраўны. Расійцы здзекваліся з нашых сялян, як хацелі. Гэтыя карціны здзеку бальшавікоў над людзьмі ў мяне і цяпер стаяць у вачах. Сам жа я непасрэдна сутыкнуўся з несвабодай ужо тады, калі асэнсоўваў свабоду як сваё і наша агульнае беларускае права (а не як нейкае маё хаценне).

Памятаю, калі я яшчэ вучыўся ў 9-м класе ў школе, прыйшоў да нас у кірзавых ботах дырэктар-расіец і сказаў, што з наступнага дня ён будзе выкладаць у нас гісторыю па-руску, дык каб мы яму і адказвалі па-руску.

Тады мы цэлым класам пастанавілі, што па-руску яму адказваць не будзем. Кірзач ставіў нам усім за гэта "калы" і "двойкі". Праз нейкі час я ад імя ўсяго класа запатрабаваў, каб ён спыніў свой эксперымент і стаў нам чытаць лекцыі на нармальнай мове. Дырэктар спасылаўся на Леніна, маўляў, Ленін гаварыў па-руску. "Але вы не Ленін, — сказалі мы дырэктару, — вось калі да нас прыйдзе Ленін, тады мы з ім і пагаворым".

Праз нейкі час у нас з'явіўся новы настаўнік гісторыі і як ні ў чым ні бывала пачаў весці заняткі па-беларуску.

Гэта была наша інтэлігентная перамога, без крыку і шпурляння чарнілак у непрыяцеля. Мяне гэта ўмацавала тады ў думцы, што толькі той несвабодны, хто не змагаецца за свабоду. Свабода сама не з'яўляецца. За яе трэба змагацца, а потым — абараняць.

***

Дэфініцыя свабоды ўмяшчаецца ў тры словы. Свабода — гэта ***магчымасць тварыць дабро.***

Пра свабоду мы гаворым толькі тады, калі ***існуе*** такая магчымасць. Калі такой магчымасці няма — мы кажам, што ***няма*** свабоды.

Калі ж свабода выкарыстоўваецца на злосць — яна ператвараецца ў несвабоду. Тады чалавек альбо робіцца нявольнікам сваіх страсцей, злых думак і паводзін, альбо, у выпадку антысацыяльных дзеянняў, трапляе ў турму і траціць свабоду ў літаральным, фізічным сэнсе. Прытым нікому не прыходзіць у галаву змагацца за свабоду крымінальнікаў, гвалтаўнікоў і забойцаў. Наадварот, патрабуюць абмежаваць іх свабоду.

Істотна зазначыць, што свабода ёсць ***маральная катэгорыя.*** Яе адлюстраванне ў канкрэтных каштоўнасцях залежыць ад маралі і ўзроўню культуры грамадства. Тым часам — гэта ёсць катэгорыя ***аб'ектыўная.*** Рэлятывісцкі падыход тут памылковы і прыводзіць да знішчэння свабоды. Дадам яшчэ, што ў філасофскім сэнсе свабода — гэта ***магчымасць вечнага развіцця да ідэалу.***

Свабода звязана са светапогляднай і маральнай арыентацыяй чалавека. Таму дэкляраванне барацьбы за свабоду і сама барацьба яшчэ мала што тлумачыць і вымагаюць канкрэтызацыі — у чым справа. Часта атрымліваецца, што некаторыя людзі, якія змагаюцца за свабоду, на справе маюць на ўвазе толькі свае інтарэсы, прычым даволі эгаістычныя, суб'ектыўныя і заганныя. Цяпер, у час усеагульнага крызісу дэмакратыі, мы бачым, як нарастае агрэсіўнасць сацыяльнай цемры ў грамадстве. ***Дрэнь змагаецца за свабоду.*** Масы цёмных суб'ектаў у розных краінах патрабуюць легалізацыі наркотыкаў, свабоды прастытуцыі, распусных палавых зносін, ліквідацыі інстытута сям'і, свабоды абортаў і г.д.

Шматаблічная катэгорыя свабоды патрабуе перш за ўсё дакладнай кадэфікацыі ў праве і выразнай вызначальнасці ў сістэме маральных каштоўнасцей грамадства. Агульнасць і расплывістасць праўных фармулёвак свабоды можа стаць прычынай апраўдання абсурду і несвабоды чалавека.

Рэкардсменам такога абсурду з'яўляецца якраз "свабодная" Амерыка. Тыповы прыклад. У Нью-Йорку ўдарыў мароз. Гэта вялікая пагроза для бяздомных, апушчаных людзей і наркаманаў, якія начуюць на вуліцах. Паліцэйскі разбудзіў бяздомную жанчыну-наркаманку, што ляжала пад сцяной, і, нягледзячы на яе супраціў, завёў у цёплую станцыю метро, каб яна там пераначавала і не замерзла. Праз нейкі час паліцэйскага пацягнулі ў суд, і паліцэйскае ўпраўленне было аштрафавана на 500 тысяч долараў за парушэнне правоў наркаманкі ляжаць на вуліцы і дзе яна хоча. Паліцэйскі, згодна з азначэннем суда, парушыў фундаментальнае права асобы — яе свабоду.

Некаторыя амерыканцы нават з гонарам расказвалі мне пра гэта — во якая ў нас свабода! На самай справе тут звычайны (а ў нашым разуменні — шарлатанскі) амерыканскі бізнес. Знайшоўся нікому не вядомы адвакат, які падгаварыў бадзяжку звярнуцца ў суд і, карыстаючыся агульнасцю вызначэння заканадаўства і фармалізацыяй мыслення суддзяў (такое магчыма толькі ў Амерыцы), выйграў працэс "абароны свабоды".

Адвакат такім чынам зрабіў сабе бясплатную рэкламу (бо абсурднасць падзеі прыцягнула ўвагу друку) і ў дадатак яшчэ зарабіў грошы (звычайна, ад 25 да 50 працэнтаў ад сумы "судовага выйгрышу", гэта значыць штрафу).

Гэта вельмі тыповы для Амерыкі прыклад, дзе бог — долар, а свабода — сродак бізнесу. Ні адваката, ні суддзяў, ні журналістаў, ні раззявак, што цікавіліся з'явай, не абыходзіла жыццё бадзяжкі. Яны не асэнсоўвалі нават фальшывасці сваёй пазіцыі. Адзіным чалавекам у гэтай гісторыі, які меў жальбу ў сэрцы і цаніў жыццё іншага чалавека як найвялікшую каштоўнасць, быў амерыканскі паліцэйскі, якога пакаралі.

***

Свабода — гэта універсальны прынцып Сусвету як Боскага стварэння, часткай якога з'яўляецца свабодная воля чалавека.

У сацыяльным грамадстве абсалютны, універсальны сусветны прынцып свабоды ўзаемазвязаны з маральнымі калізіямі духоўнага развіцця чалавецтва. Гэтым абумоўлена тое, што свабода ў цывілізаваным сацыяльным грамадстве — гэта катэгорыя выбару і не з'яўляецца найвышэйшай і абсалютнай каштоўнасцю. Найвялікшымі каштоўнасцямі з'яўляюцца Бог, жыццё чалавека і жыццё народа. Там, дзе свабода ўступае ў канфлікт з гэтымі каштоўнасцямі — там робіцца выбар. Ён можа быць розным. Гледзячы на тое, якія сілы, якія ўзроўні задзейнічаны ў супрацьстаянні.

Глыбінная сутнасць канфлікту змагання за свабоду выяўляецца ў пытанні: ці можа існаваць ***свабода ўсяго***? (А гэта значыць — і свабода зла). У метафізічным сэнсе, які аперыруе *вечнымі катэгорыямі*, такое становішча прызнаецца. (Бог даў свабоду Сатане. Але на пэўны час. Пакуль колькасць упаўшых анёлаў не заменіцца адпаведнай колькасцю справядлівых людзей. У гэтым сэнс духоўнай гісторыі чалавецтва і змест барацьбы дабра са злом на Зямлі.)

Але сацыяльная практыка *дачаснага свету* (і дачаснага жыцця) паказвае, што ў соцыуме не павінна быць свабоды зла, бо спыняецца духоўнае развіццё. "Не", — гавораць злу свабодныя людзі. "Так", — кажуць тыя, хто хоча іншай свабоды. "Так", — кажуць ліберальныя заканадаўцы, якія лічаць, што прынцып свабоды павінен быць роўным для ўсіх: і для мільярдэра, які лятае з Нью-Йорка на "Канкордзе" паабедаць у парыжскі рэстаран (тры гадзіны лёту, 18 тысяч долараў туды і назад), і для бадзяжкі, што мае права замерзнуць на вуліцы, і для верных хрысціян, што жывуць па запаведзях, і для дэградзіраванага чалавека, што ўступае ў палавыя акты з жывёлай ці з сабе падобнымі (і, дарэчы, знаходзіцца ў Амерыцы пад асобай аховай закону; гэта тут называецца "секс-меншасці").

Лібералы глядзяць на свабоду, як той рускі Іван на агурковае поле: садзіў агуркі, але ніколі іх не палоў. У выніку замест агуркоў выраслі чартапалох ды пустазелле. Затое — свабода: расце, што хоча. Хоць вядома, што культура пачынаецца з абмежавання прыроднай свабоды (стыхіі), з абмежавання несвабоды (разбуральнай сілы).

Праклямацыя ў дэмакратычным грамадстве свабоды без берагоў, "свабоды ўсяго" заўсёды ёсць маніфестацыя заганнай цемры, патрабаванне свабоды зла, імкненне да легалізацыі чалавечай нізасці.

Часта прыходзіцца чытаць, як у Нью-Йорку злавілі тую ці іншую банду маладых хлопцаў у час нападу на краму. Калі паліцыя іх хапае, яны, звычайна, абураюцца, што парушаюць іх чалавечыя правы і што гэта дыскрымінацыя, таму што яны чорныя. Такая рэакцыя сярод злачынцаў вельмі распаўсюджана. Яны шчыра думаюць, што іх заціскаюць, бо ў Гарлеме яны выраслі "абсалютна свабоднымі".

***

У цэлым, аднак, свабода ў Амерыцы добра рэгламентаваная і ўлічвае інтарэсы чалавека, бадай, як нідзе. Выдаткі, кур'ёзы, наступ зла і абсурд, які пашыраецца, звязаны перш за ўсё з актывізацыяй левых ва ўсім свеце і лібералаў на Захадзе пасля распаду сістэмы савецкага таталітарызму.

У заходнім грамадстве знік страх перад камуністычным варварствам, і людзі расслабіліся, страцілі пільнасць, сталі больш спакойна глядзець на сваіх левых сацыяльных і маральных экстрэмістаў, якія тут жа перайшлі ў наступ і ўжо шмат чаго дамагліся, і нават шмат дзе захапілі ўладу.

Выглядае парадаксальным, што маральны крызіс заходняй дэмакратыі і крызіс свабоды супаў па часе з крахам савецкага камунізму і таталітарнай сістэмы сацыялізму ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Захад, магчыма, з цягам часу пераадолее гэты крызіс. Але для нас, беларусаў, якія змагаюцца яшчэ з мінулым днём — рускім каланіялізмам у кагэбэшнай упакоўцы, — для нас важна зразумець, што каштоўнасці дэмакратыі і свабоды, якія вязуць да нас з Захаду, гэта ў значнай ступені ***ліберальны сурагат у дэмакратычнай абгортцы.*** Ім, дэмакратычным лібералам, важней узгадаваць тут, у нас, на Беларусі, сваіх гомасексуалістаў і феміністак ды экспартаваць на Беларусь адкіды сваёй культуры, чым сапраўды дапамагчы нам, беларусам, збавіцца ад расійскай каланіяльнай агрэсіі, абараніць беларускую мову ад здзеку і вынішчэння, вярнуць беларускія школы і беларускую асвету, умацаваць беларускую незалежнасць і г.д. Іх не цікавяць праблемы нашага нацыянальнага выжывання. Ім абыходзяць перш за ўсё свае ліберальныя інтарэсы.

Пад гэтыя свае абмежаваныя паняцці яны даюць невялікія грошы ды гранты бедным беларусам і плодзяць апазіцыйны пустацвет, балбатуноў за дэмакратыю без суверэнітэту.

Менавіта такая заходняя ліберальная "публіка" прычынілася да спробы знішчыць *Беларускі Народны Фронт* і расфарміраваць яго ў "дэмакратычную апазіцыю" ў ("балота"). З гэтага нічога не атрымалася, бо мы ўжо ведаем іх норавы і іх справы.

***

Для нас, беларусаў, свабода сёння абазначае сцісла канкрэтную і практычную задачу. Мы павінны перш за ўсё *збавіцца ад каланіяльнага прамаскоўскага рэжыму ўлады, спыніць агрэсію расійскай каланіяльнай палітыкі і гарантаваць бяспеку і незнішчальнасць дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.*

Дзеля гэтага мы павінны стварыць нацыянальнае кіраўніцтва краінай. Беларуссю павінны кіраваць: Беларускі нацыянальны ўрад, Беларускі нацыянальны парламент і Беларускі нацыянальны прэзідэнт. Беларуссю павінны кіраваць беларусы, а не расійцы і расійская каланіяльная адміністрацыя.

Пра свабоду можна гаварыць толькі тады, калі мы будзем гаспадарамі ў сваім доме. Толькі тады, калі мы, беларусы, самі, як мы таго захочам, будзем кіраваць і гаспадарыць у нашай Беларускай дзяржаве. І, ужо маючы такую свабоду, мы ніколі не скарыстаем яе на злосць. ***Наша свабода стане для нашага народа Боскім стварэннем шчасця нашых людзей.*** І тут ужо нам трэба будзе пастарацца, каб не рабіць так, як заходнія лібералы, і не ўкінуць Святую Свабоду ў гразь.

*Старая картошка с музыкой. Светлогорск, май 2001 года.*

Фото IREX/ProMedia.

ДВА ПИСЬМА

## Я вспомнил время фашистской оккупации...

Находясь на проспекте Скорины вблизи Октябрьской площади столицы, когда там проходило пресловутое Всебелорусское собрание, я стал свидетелем жуткой сцены: переодетые лукашенковские опричники зверски избивали и терзали седоволосого правозащитника Валерия Щукина.

Не буду описывать эту дикую сцену — о ней поведал сам Валерий Алексеевич в "Народной воле". Скажу лишь о своих переживаниях: все во мне закипело от боли и гнева, а в памяти невольно встало время фашистской оккупации, которое я пережил мальчишкой.

...Однажды к нашей хате подъехала черная легковушка с немцами. У двоих на шее были автоматы. Один по-русски спросил, где моя мать. Когда мама пришла от коров с ведрами молока, ей скомандовали немедленно садиться в машину. Она только открыла рот от удивления, как автоматчики схватили ее и потащили. При этом отбросили меня так, что я оказался на земле. Потом бабушка несколько раз водила меня к костоправу...

Маму спас от расстрела (за то, что помогала вышедшим из окружения красноармейцам) сосед, с которым они в молодости гуляли на вечеринках. Он сумел войти в доверие к немцам...

Не понимаю, чем сегодняшние молодчики-костоломы в штатском или форме, без колебания поднимающие руку на замечательного, известного человека, борца за свободную Беларусь, отличаются от головорезов в форме со свастикой, что орудовали на наше земле в годы войны? Разве только тем, что последние были пришельцами, а эти, так сказать, "свои", доморощенные. Их родители — наши соседи или знакомые...

**Виктор БАЛУЕВ,**
**инвалид II группы.**

Минск.

## Что скрывать пинской "вертикали"?

Около месяца назад группа пинчан обратилась в горисполком с предложением вывешивать один экземпляр копий протоколов всех решений исполкома на доске объявлений в фойе здания исполкома, а также председателю исполкома и его заместителям регулярно проводить пресс-конференции для журналистов всех СМИ и заинтересованных граждан. По мнению обратившихся, при существующем положении вещей жители г.Пинска недостаточно всесторонне информированы о работе исполнительной власти, поскольку публикации в официальной газете "Пінскі Веснік" содержат неполную, выборочную информацию.

Как следует из полученного на днях ответа, подписанного заместителем председателя В.Федоровичем, исполком считает, что информации, которая публикуется в "Пінскім Весніку", достаточно. О вывешивании информации в фойе, где с решениями местной вертикали мог бы ознакомиться любой горожанин, не говоря уже о пресс-конференции, в ответе вообще не упоминается.

**Сергей КОСТЮКОВИЧ,**
**житель г.Пинска.**

СОСЕДИ — О НАС

# Когда страх витает в воздухе

Странен город Минск. Машин настолько мало, что даже в будний день можно перейти центральную улицу, не обращая внимания на светофоры. Город не воспринимается столицей независимой республики. Скорее, это похоже на провинцию — небольшой такой современный город где-нибудь в российской глубинке. Я не оговорилась — именно в российской, потому что и в общественном транспорте, и на улице, и в магазинах, и в учреждениях слышна только русская речь. Причем, чистая русская речь без белорусского акцента — этих приглушенных англозвучащих "ч" и забавных "я". Только вывески написаны по-белорусски, да в автобусах и метро объявляют станции на родном языке. В метро — тоже почти пусто. Всякая торговля в переходах запрещена. От этого днем, когда народу мало, подземные катакомбы производят гнетущее впечатление — серые стены, сумеречное освещение и тишина — легким эхом отражающая от стен шорох шагов. Запрет на торговлю появился после трагедии в метро "Немига" во время праздника, когда толпа, укрываясь от града, рванулась в переходы, в результате чего погибло и было покалечено много людей.

Метро оживает лишь в субботние вечера, когда в переходах тусуется молодежь. Эти тусовки около метро — единственное развлечение, которое ей по карману. На мой взгляд, запрет торговли — мера очень странная. Следуя этой логике, нужно запретить и автотранспорт, а заодно и поезда, самолеты. Ведь жить вообще, — вредно. И в Беларуси особенно. Впрочем, каждый борется со своими проблемами сам и тем способом, который кажется ему наиболее приемлемым. Тем более что один из моих белорусских собеседников очень оскорбился, когда я изложила эти соображения. И в ответ сказал: "Вы там такие умные, только непонятно почему у вас все плохо". Но я теперь не уверена, честно говоря, что у нас так уж плохо. Проблем достаточно. Но, самое главное, у нас не осталось духа Советского Союза. А в Минске этим духом пропитано все. У меня было постоянное ощущение, что я вернулась в раннюю юность, со всеми этими совковыми страхами, но только взглянула на это со стороны, как иностранец.

Страх — это тоже неотъемлемая часть сегодняшнего Минска. Он витает в воздухе, им буквально пахнет. "Только не называйте моего имени..." — говорили мне мои собеседники. Фразы "Это не для печати", "Пожалуйста, не обозначайте названия места, где я работаю", "Я полагаюсь на ваше обещание моей полной анонимности," — звучали постоянно. Нет, мне не сообщали государственных секретов, просто рассказывали о реалиях: о быте, о ситуации в бизнесе, в промышленности, в сельском хозяйстве. Ничего такого, о чем у нас в России нельзя было бы говорить.

Большая проблема для приезжих — деньги. Не так давно в Беларуси прошел обмен денег подобный российскому. На новых банкнотах стало на три нуля меньше. Но от этого не стало легче. Деньги все равно имеют чудовищное количество нулей. Примерно, как у нас до деноминации. Видимо, по-другому нельзя было сделать. Ибо очень велик разброс цен между продуктами первой необходимости и, так сказать, предметами роскоши. Например, хлеб новыми деньгами стоит до 400 "зайчиков", а самые дешевые сигареты — около 200. Валютный курс во время моего визита был больше 1200 белорусских рублей за доллар и 44 — за российский рубль. Сами купюры очень похожи друг на друга — все, что больше 50 (50000), почти не отличаются по размеру и по цвету. Когда нужно расплачиваться, из кармана вынимаешь сумасшедшую пачку банкнот и начинаешь пристально разглядывать — что есть что. Новые денежные знаки от старых я отличала по дате изготовления купюры — 2000 год. Но он очень мелко обозначен: людям с плохим зрением я не завидую. Меня постоянно не покидало опасение, что размененных денег не хватит. И это случилось в последний вечер.

В процессе расчета оказалось, что нам не хватает 1200 рублей. "Доллар", — хмыкнула я. Ситуация, на самом деле, глупейшая: у нас были и доллары, и русские рубли, а мы чувствовали себя так, будто грабим магазин. По глупости мы достали этот доллар. Кассир сделала круглые глаза. Я попыталась сгладить ситуацию и очень вежливо, извинившись, сказала: "Простите, мы сегодня уезжаем, белорусских денег у нас больше нет. Быть может, Вы подскажете, где поблизости можно разменять деньги?" Кассир очень обиделась и сдавленным шепотом попросила напарницу: "Позови Машу". Прикрыв ладошкой покрасневшее личико, она возмущенно бросила подруге: "Представляешь, они мне доллары предлагали!". При этих словах сопровождающий нас белорус тихонько выскользнул за дверь. Потом он объяснил, что сделал это из чувства самосохранения — потому что нас, размахивающих в минском магазине американскими и русскими деньгами, вполне могли арестовать. "За что?" — удивились мы. "За то, что Вы предлагали государственной служащей нарушить закон". No comment! Другая ментальность? В России, наверное, кассир просто бы посмеялась и объяснила, как добраться до ближайшего пункта обмена валюты, а не делала бы вид, что ей за доллар предложили вынести через черный ход полмагазина. Или, может быть, наше сознание настолько испорчено, что мы не замечаем таящихся в наших мозгах преступных замыслов?

Тяжело все-таки взирать на недавнее прошлое. Думать о том, что твои слова могут быть истолкованы с каким-то шпионским подтекстом. Опасаться ареста за шутку, пусть даже не слишком умную. Чувствовать, что смотрят на тебя, как на врага народа, лишь потому, что ты живешь в другой стране и волею судеб платежеспособнее. Тяжело наблюдать эту вязкую тишину, за которой кроется страх. Белорусская молодежь так же, как и мы 15 лет назад, ждет перемен. И тоже не верит, что они будут. А я теперь скорее поверю в то, что белорусский народ единогласно проголосует за пожизненное президентство батьки Лукашенко, чем в то, что там произойдут какие-то перемены.

**Светлана ЕПИФАНОВА,**
**Россия.**

Фото IREX/ProMedia.

